Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

5 - 11 ЧЭРВЕНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 3000 РУБЛЁЎ
№23 (163)

АДНА ЗЯМЛЯ

СМАРГОНЬ

## 3 месяца ў месяц

Пачынаючы з сакавіка, на цэнтральным перагаворным пункце РВЭС ідзе рамонт. Як і мае быць, у сённяшні час рэканструкцыя вядзецца ў стылі еўра, а таму ашмянцам і гасцям горада будзе намнога прыемней сюды заходзіць.

Хаця, з іншага боку, такое свята адбудзецца, як мяркуецца, не хутчэй чым напрыканцы лета. Падрадчык гэтага аб'екта – мясцовая фірма «Прамень» завяршыць пачатае не надта спяшаецца.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

АСТРАВЕЦ

## Цягнік на лета

Напрыканцы мая да звыклых цягнікоў, што ходзяць праз станцыю Гудагай, дадаўся яшчэ адзін, які курсіруе ад Вільнюса да Мінска.

Маршрут адкрыты на летні час і ходзіць толькі па серадах, пятніцах і ў выходныя дні, але для жыхарм рэгіёна ён прыйшоўся даспадобы. Пад'ехаць на дачны ўчастак ці ў сталіцу многім на ім зручней. Тым больш, што цана праезда амаль тая ж, калі ехаць на электрычцы.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ВІЛЕЙКА

## Малююць дзеці

Шарыкавыя ручкі атрымалі ўсе ўдзельнікі конкурсу "Малюнкі на асфальце". Па тры лепшыя мастакі з 21 школы горада і раёна ў сваіх работах адлюстроўвалі тэму міру. Каштоўныя ж прызы былі лепшым – школьнікам Залескай школы, Любанскай, базавай Селішчанскай.

Аналагічныя конкурсы прайшлі і ў іншых гарадах рэгіёна.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АСТРАВЕЦ

## На канікулы ў Торунь

Традыцыйна з года ў год на летніх канікулах Саюз палякаў Беларусі ладзіць паездкі ў Польшчу для дзяцей з польскіх сем'яў, якія вывучаюць польскую мову ў школах ці на факультатывах.

Сёлета шэсць хлопчыкаў і дзяўчынак у складзе гродзенскай групы наведаюць польскі горад Торунь. Падарожжа для іх стане ўзнагародай за добрае авалодванне польскай мовай. Акрамя адпачынку і экскурсій яны змогуць паправіць сваё здароўе. Атрымліваецца, так бы мовіць, лячэбна–пазнавальнае падарожжа.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# 19 чэрвеня ў Маладзечне адкрываецца нацыянальны фестываль песні і паэзіі

**Для нас фестываль, як для каня вяселле – смяецца намеснік генеральнага дырэктара ВА "Камунальнік" Павел Гаськоў.**

**МАЛАДЗЕЧНА.** Падчас святаў вялікая нагрузка прыпадзе на дворнікаў. Дакладна невядома, колькі прыедзе гасцей. Але хопіць і маладзечанцаў, якія выйдуць на вуліцы горада. 24 гадзіны ў суткі камунальныя службы мяркуюць падтрымліваць чысціню.

– Мы будзем рыхтаваць Цэнтральную плошчу, – гаворыць **Павел Гаськоў**, – Пад кіраўніцтвам **Міхаіла Фінберга** на ёй узвядуць сцэну. Месцы для гледачоў, металічныя агароджанні – за намі. Акрамя гэтага, наладзім ілюмінацыю на вуліцах, развесім святочныя транспаранты. На пустцы (паміж будынкам падатковай інспекцыі і вуліцай Л. Талстога) зробім разметку для парашутыстаў. Клопату, адказнасці хопіць.

**– Тое, што добраўпарадкоўваецца ля калгаснага рынку па вул. Талстога – вынік перадфестывальнага сіндрому?**

– Працуем у звычайным рытме, па плане. Можа, і паспеем работы выканаць да святаў. З вул. Талстога будзе ўваход на рынак. Там жа дзве аўтастаянкі. Тэрыторыю выкладзем пліткай. Прыгажосць падкрэслім малымі архітэктурнымі формамі.

**– Што будзе з кіёскам "Белсаюздруку", што на Прытыцкага ля друкарні? Там таксама нешта плануецца?**

– Гэты аўтобусны прыпынак, а таксама ўваход у гарадскі парк ад магазіна "Елгава" будуць выкладацца бетоннай пліткай.

**– У горадзе шмат якім вуліцам патрабуецца рамонт. Ці не занадта мы раскідваемся сродкамі, калі ствараем тамсям бетоннае пакрыццё?**

– Плітка кладзецца там, дзе яна патрэбная,– з практычнага і эстэтычнага боку. Што тычыцца вуліц, дзесьці 80 працэнтаў з іх неабходна рамантаваць. Гэта 24 мільярды рублёў. Адразу такую суму ніхто нам не дасць. Працуем па меры паступлення грошай і па графіку. На рамонт дарог пайшло ўжо 4,5 млрд. Вельмі ўдзячны ДРБУ–49 (кіраўнік **Георгій Мятліцкі**), маладзечанскаму прадпрыемству механізацыі спецыяльных работ (**Канстанцін Манюк**). А вось РБУ–3 (**Мікалай Буйневіч**) недапрацоўвае.

Дарэчы, па горадзе ў хуткім часе паедзе "пыласос на колах". Купляем магутную (на базе машыны ЗіЛ) падмятальную ўборачную машыну. Яна сапраўды, быццам той пыласос, зацягвае ў сябе смецце. Прадукцыйнасць – 100 км за 8 гадзін работы.

*Заканчэнне на 3-й ст.*

*19 чэрвеня такіх сметнікаў не будзе.*
ФОТА «РГ»

ЧОРНАЯ СУБОТА

## За дзень на Вілейшчыне ўтапіліся пяцёра

Чацвёра жыхароў сталіцы выехалі на Вілейскае вадасховішча парыбачыць. Паставілі палатку, закінулі вуды. Увечары вырашылі павандраваць. Нарабілі "шораху" ў вёсцы Сосенка. Ускочылі на мост праз вадасховішча, рушылі ў бок Ільі.

"Фіят–Крома", па словах сведкаў, ішоў на хуткасці, хістаўся з боку ў бок, нібы слаламіст. Раптоўна прабіў металічную агароджу маста і скочыў у ваду. 17–гадовага мінчаніна выкінула з машыны, таму ён застаўся жыць. Трое пайшлі на дно разам з машынай. Вадалазы выцягнулі тапельцаў і сродак іх перамяшчэння, дзе знайшлі яшчэ багата гарэлкі.

73–гадовы жыхар Івонцавічаў разам з сынам лавіў рыбу на Віліі. Лодка перавярнулася – састарэлы чалавек загінуў.

У вадзе загінуў і 8–гадовы хлопчык, які прыехаў у пасёлак Партызанскі на летні адпачынак.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ,*
*Алена ІРЫСАВА,*
*Васіль САВІЦКІ.*

ПАДПІСКА - 98

## Газета, якая зближае

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА:**
**на месяц - 12 тыс.руб.; 3 месяцы - 36 тыс.руб.; 6 месяцаў - 72 тыс.руб.**

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

**Рэгіянальную газету**

63212 (індэкс выдання)

Колькасць камплектаў

На 1998 год па месяцах

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прзвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літара

63212 (індэкс выдання)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА НА

**Рэгіянальную газету**

Кошт: падпіскі / пераадр. | Колькасць камплектаў

На 1998 год па месяцах

| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | |

Куды ______ (індэкс) ______ (адрас)

Каму ______ (прзвішча, ініцыялы)

СУМЕЖЖА

## Беларусы і літоўцы сядуць. За "круглы стол"

***АСТРАВЕЦ. На наступным тыдні ў беларуска–літоўскім адукацыйным цэнтры, што ў Рымдзюнах, пройдзе "круглы стол" па праблемах выхавання, адукацыі і культуры дыяспараў у Літве і Беларусі.***

Арганізатарам гэтай сустрэчы выступілі Міністэрства адукацыі Беларусі, Мністэрства адукацыі і навукі Літвы, Дзяржкамітэт па справах рэлігіі і нацменшасцяў Беларусі і Дэпартамент па рэгіянальных праблемах і справах нацыянальнасцяў пры ўрадзе Літвы, Гродзенскі аблвыканком і Астравецкі райвыканком, таксама цэнтр імя Ф. Скарыны і літоўская асацыяцыя беларусістаў.

Акрамя гэтага мясцовыя жыхары жывуць у чаканні таго, што на гэтую сустрэчу прыедзе прэзідэнт А. Лукашэнка. Ці адбудзецца яго візіт у Гервяцкі край – пакажа час.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

ФОТАМАДЭЛЬ РЭГІЁНА



***Наташа, Маладзечна, 15 год, рост 157, вага 45.***

*- Вельмі люблю займацца музыкай, асабліва спяваць - скончыла музычную школу на «выдатна» і 9 класаў СШ №9. Збіраюся паступаць у музычнае вучылішча на харавое аддзяленне.*

*Люблю жывёл - асабліва катоў і сабак. Падабаецца гуляць з мамай па горадзе, асабліва калі яна купляе мне малочны кактэйль.*

ФОТА АЛЯКСЕЯ ФЯЦІСАВА.

СТАРЫ АЛЬБОМ




Смаргонь перад I Сусветнай вайной. Вул. Гарбарная. Яна перасякала вуліцу Мінскую ля касцёла (менавіта ля касцельнай агароджы стаяў фатограф). Цяпер вуліца Гарбарная носіць імя Гастэлы. Прыкладна на тым месцы, дзе была знакамітая фатаграфія Шэра, стаіць сёння будынак раённага ЗАГСа.

Назву сваю вуліца атрымала ад таго, што на ёй жылі, у асноўным, рабочыя-гарбары. Наогул Смаргонь перад I Сусветнай вайной была буйным цэнтрам скуранной вытворчасці ў Паўночна-Заходнім краі, тут налічвалася 32 скураныя заводы.

Удалечыні відаць шкляны ліхтар, які кожны дзень здымалі і запраўлялі газай. Рабіў гэта спецыяльна прызначаны чалавек.

Як відно на абодвух здымках, вуліцы былі забрукаваныя, зроблены глыбокія зліўныя канавы, вымашчаны драўляны тратуар. За яго станам мусіў сачыць кожны гаспадар прылеглага дома. А дамы ў Смаргоні будавалі вельмі шчыльна адзін ля аднаго. Горад як бы знаходзіўся пад адным дахам. Гэтая цеснота была абумоўлена дарагоўляй гарадской зямлі, па кішэні яна была толькі багатым яўрэям, а ім набываць зямлю забаранялася. Вось і туліліся дамы, ствараючы вялікую небяспеку пры пажарах.

*Н. МАРКАВА, галоўны захавальнік фондаў гісторыка-краязнаўчага музея ў Смаргоні.*

ФОТА З ФОНДАЎ СМАРГОНСКАГА ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

КУЛЬТУРА

# "Тытанік" увайшоў у вялікую ваду

***МАЛАДЗЕЧНА.** Амерыканскі фільм "Тытанік", уладальнік 11 "Оскараў", стаў у горадзе самым касавым фільмам. Збор склаў 159 мільёнаў. Беларускі глядач далучаецца да сусветнага кіно. Пакрысе.*

У "застой" кожны дарослы маладзечанец наведваў кінатэатр у сярэднім 17 разоў штогод. Цяпер тут прыкладна еўрапейскі ўзровень – пад 2 візіты.

Маладзечанскі філіял кінавідэапракату лепшы ў вобласці. Нягледзячы на адсутнасць чаргі ў адзіны працуючы кінатэатр "Радзіма" (ёсць яшчэ відэасалон), пракатчыкі абслужылі ад пачатку года больш за 70 тысяч гараджан. А яшчэ ў зоне ўвагі свой раён, Мядзел, Вілейка, Валожын.

– Бывае, папракаюць, што пустуе кінатэатр "Спадарожнік", – гаворыць дырэктар філіяла **Галіна Адамоўская**. – Мы ж не можам яго ўтрымліваць. Спрабавалі штотыдзень зрабіць 4–5 сеансаў для дарослых – не ідзе народ. Наведваюць "Радзіму", там камфортна. А каб зрабіць камфорт у "Спадарожніку", патрэбна на капрамонт паўтара мільярда рублёў. Прапрацоўваецца варыянт перадачы будынка камунальнай уласнасці горада.




– Якія самыя папулярныя фільмы апошнім часам?

– Адзначу "Батанічны сад" Гасцюхіна. Сярод дзіцячых – "Зеўс і Раксана". Наогул жа, штомесяц нам даюць па чатыры новыя дзіцячыя карціны. Цэнтр закупіў каля 40 новых расійскіх карцін для дарослых. У кожнай навучальнай установе ёсць наш каталог. Можна заказаць амаль усё: ад "настальжы" да апошніх навінак Галівуда. У фондзе філіяла (а зн., у горадзе) 690 копій савецкіх, расійскіх, айчынных фільмаў, 238 – далёкага замежжа, 271 – для дзяцей. Чаго не хапае, можна прывезці з Мінска. Праблема ў тым, што няма жадання.

– Ці ёсць у філіяле прафесіяналы, апантаныя кінематографам? Як у "Чалавеку з бульвара Капуцынаў"?

– Такіх многа. 30 год працуе кінамеханікам **Алена Матарына**, 15 год інжынерам – **Мустафа Ільясевіч**. Засталіся самыя надзейныя. Калі, напрыклад, пасля тыдня дзіцячай кнігі (дарэчы, тады кінатэатр наведала каля 6 тыс. дзяцей) 47 крэслаў былі парэзаныя, тэхрабочыя ўсё залапілі, нават у свой вольны час.

– Напэўна, дзеці не глядзелі "Цімура і яго каманду"?

– Такая магчымасць ёсць і сёння. Свайго роду класіка дзіцячага кіно патрэбная, як ніколі.

– У час канікулаў "ударыце кінематографам" па летніках і школах?

– Так. Але не дзеля камерцыі. Той жа школьнік мусіць не проста бавіць час, але і неяк развівацца.

*Васіль САВІЦКІ.*

ШКОЛА

# Вучань года і настаўнікі

ВІЛЕЙКА. Традыцыйнымі сталі сустрэчы ў СШ №3 з пенсіянерамі–настаўнікамі. Пачаліся яны тры гады таму, калі ў школу прыйшоў малады дырэктар **Мікалай Гіро.**

На гэты раз настаўнікі і госці паглядзелі і ацанілі мерапрыемства "Вучань года–98", якое спецыяльна да сустрэчы падрыхтавалі арганізатары школы **І. Храмцова і М. Хмяльніцкая.** Пенсіянеры ўбачылі сучасных школьнікаў, іх ідэі, мары, майстэрства. Сам жа конкурс праходзіў па трох намінацыях. Сімпатыі гледачоў заваяваў **Віталь Кананові**ч, які і стаў "Вучнем года–98".

Настаўнікам–пенсіянерам асабліва спадабалася гульня "Шчаслівы выпадак", якую правяла настаўніца **Часлава Сідарэнкава**.

*Іна СТРЭЖ, СШ №3.*

# 30 пытанняў у гадзіну

СМАРГОНЬ. На канікулы наш сябар Лёша пайшоў у добрым настроі: на апошняй школьнай лінейцы яго віншавалі з перамогай у матэматычным конкурсе.

У СШ №1 па вясне прайшлі інтэлектуальныя гульні–спаборніцтвы, арганізаваныя Беларускай асацыяцыяй "Конкурс" і Рэспубліканскай завочнай фізіка–матэматычнай і хімічнай школай "Кенгуру–98". Удзельнікам неабходна было на працягу адной гадзіны пятнаццаці хвілін адказаць на трыццаць пытанняў.

Ва ўзроставай катэгорыі сёмых–восьмых класаў, дзе ўдзельнічалі 1 тысяча сто восем вучняў са Смаргоншчыны, і перамог **Аляксей Ткачэнка** з СШ №6 (дваццаць дзевятае месца на рэспубліцы).

Усе ўдзельнікі атрымалі пасведчанні, а пераможцы – значкі з эмблемай конкурсу і наборы ручак.

*Ягор і Антон МАЛЬШЭЎСКІЯ.*

# Хочаш быць аптымістам? Будзь ім!



***МАЛАДЗЕЧНА.** Іван Мурзін, падаецца, закончаны аптыміст. Хаця б таму, што заяўляе:*

- I жыць, і працаваць цяпер можна. Было б толькі жаданне.

У самога ж - хоць вазьмі ды пазыч. У 1990-м годзе ён, намеснік галоўнага інжынера завода «Электрамодуль», аднаго з буйнейшых у горадзе прамысловых прадпрыемстваў, разам з аднадумцамі з галавой акунуўся ў бізнес. Пачыналі з «нуля», перасправавалі розныя варыянты, знаходзілі і гублялі, набівалі гузакі і, ўрэшце, спыніліся на канкрэтнай справе. Сёння на навукова-вытворчым прадпрыемстве «Струм» працуе больш за сто чалавек, фірма выпускае больш чым на 3 млрд. рублёў у месяц прадукцыі для медыцыны. Каля 60% стаматалагічнага і хірургічнага інструментарыя выкарыстоўваюць для сваіх патрэб айчынныя клінікі і бальніцы, астатні пастаўляецца за мяжу. Па сваіх якасцях інструменты з маркай «Струма» нікольki не саступаюць аналагічным вырабам замежных вытворцаў. I значна таннейшыя.

- Марыць нікому не забаронена, - гаворыць дырэктар НВП «Струм» Іван Мурзін. - Упэўнены, што праз пэўны час у Маладзечне з'явіцца адзін з лепшых у Еўропе заводаў медыцынскага абсталявання. Пад гэта мы і ўзводзім новы корпус, дзе пастараемся аптымальна размясціць вытворчасць і бытавыя памяшканні. Калі цяпер штомесяц на аднаго работніка выпускаецца прадукцыі ў пераліку больш, чым на $1000, то ў недалёкай перспектыве гэты паказчык плануем падвоіць альбо нават патроіць. Грошы мы не «праядаем», а максімальна імкнемся накіраваць іх на развіццё.

Аптымізм дырэктара не здолела падарваць нават, як ён лічыць, прыкрая недарэчнасць: прадпрыемства ўсё яшчэ не атрымала грошы, гарантаваныя пад выпуск сацыяльназначнай прадукцыі, хоць нядаўна адказныя работнікі з Міністэрства аховы здароўя запэўнівалі, што грошы выдзеленыя. Праўда, сёння перапытаць немагчыма: пасля чарговай прэзідэнцкай «прачуханкі» «одних уж нет, а те далече».

*Віталь ПАШУК.*

ФОТА СЯРГЕЯ КАПЫЛОВА.

ЮБІЛЕЙ

# Няхай жыве музыка?

***СМАРГОНЬ.** Сёлета юбілей у мясцовай музычнай школы імя Агінскага – 40 год таму яна ўтварылася з філіяла Ашмянскай. На той час чатыры выкладчыкі навучалі каля пяцідзесяці дзетак граць на баяне, акардэоне і піяніна. За сорак год з яе сценаў выйшла больш за 1400 юных музыкантаў, значная колькасць якіх прадоўжыла музычную адукацыю. Сёння ў школе працуюць 55 педагогаў, палова якіх – яе былыя выпускнікі.*

Выкладчыкі навучаюць ігры на пятнаццаці інструментах амаль пяцьсот школьнікаў. Зусім нядаўна калектыў пераехаў у новы будынак, што дазволіла пашырыцца: адкрыты новыя аддзяленні. У бліжэйшы час мяркуецца адкрыццё і свайго дзіцячага тэатра.

Музычная школа стала цэнтрам музычнай адукацыі і выхавання. Яе дырэктар **Анатоль Пятроўскі** гаворыць, што ні адно свята ў Смаргоні не абыходзіцца без удзелу выкладчыкаў, вучняў або былых выпускнікоў, сярод якіх шмат лаўрэатаў розных конкурсаў, у тым ліку і рэспубліканскіх. А конкурс імя Агінскага стаў у Смаргоні традыцыйным і нават міжнародным.

Непасрэдна ж святкаванне прайшло сціпла. Грошай спонсараў хапіла хіба што на кветкі для ветэранаў. Відаць, ацэняць дзейнасць школы калі–небудзь. Магчыма, і пасля закрыцця – як шануюць людзей пасля смерці.

*Ала СТРАШЫНСКАЯ.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

Працяг. Пачатак у №№ 8-22.

***Падчас візіту не знікала адчуванне, што амерыканцы, у большасці сваёй, нейкія, так бы мовіць, прымітыўныя.***

## Не, гэта не Рыя-дэ-Жанейра

Наведванне "музея мастацтваў" Des Moines Art Centre пачалося з таго, што нам выдалі замест шарыкавых ручак алоўкі. Каб дзе плямку не пасадзілі, бо да экспанатаў дазволена падыходзіць максімальна блізка. Будынак спраектавалі вядомыя архітэктары з Кітая, Фінляндыі і ЗША, адпаведна і складаецца ён з трох рознахарактарных частак.

Уразіла суседства работ Маціса (каля двух дзесяткаў - у апошнія гады жыцця ён не мог маляваць, таму выразаў фрагменты і наклейваў, што таксама лічылася карцінамі), Мане, Радэна, Рэнуара, Пікасо, Гагена, Гоі з прадметамі мастацтва прымітывізму.

Чалавека абклалі гіпсам каля паліграфічнай машыны мясцовай газеты - атрымалася скульптура (чалавек, натуральна, пакінуў свой "кокан").

Стаяць тры пыласосы. Мне тлумачаць:



- Гэта пра тое, што мы любім усё новае. Новы, з каробкі, пыласос - мастацтва; былы ў карыстанні - бязглуздзіца.

Мексіканцы прыклейваюць на сценкі разбітыя талеркі - упрыгожваюць такім чынам жыллё. І тут ёсць падобны твор мастацтва, называецца «Смерць моды».

Яшчэ нехта сабраў (інакш і не скажаш) скульптуру каня з металалому са звалкі.

Абсалютна белы квадрат. Гэта карціна «Праклясце». Лічбы па кутах паказваюць ніз і верх, каб, барані божа, не паблыталі.

Тут сцвярджаюць, што многія людзі не разумеюць гэтага. Але навідавоку непрыхаванае імкненне амерыканцаў выдзеліцца хаця б неяк, хаця б чымсьці. Праўда, адначасова з прымітывам і прамалінейнасцю сустракаюцца цікавыя сур"ёзныя рэчы.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

| МАЛАДЗЕЧНА. Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку: | | | |
|---|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (тыс. руб.) | |
| | | 20.05 | 3.06 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 90 | **92** |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 232 | **295** |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 84,7 | **89,7** |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | **адсутн.** |
| Рыс | 1 кг | 28 | **28,5** |
| Цукар | 1 кг | 29 | **30,2** |
| Грэчка | 1 кг | 28,5 | **30** |
| Алей | 1 л | 70 | **67** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 27 | **24,6** |
| Маянэз | 250 г | 18 | **20** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 70 | **72** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 24 | **25** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 24 | **25** |
| Лімоны | 1кг | 57,1 | **48** |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 40 | **25** |
| Масла | 1 кг | 80 | **80** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **25** |
| Малако | 1 л | 10 | **10** |
| Бульба | вядро | 50 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 35 | **25** |

СЁННЯ

# Уфа, Самара, ЗША...

***Сёння праваслаўныя беларусы адзначаюць дзень памінання Еўфрасінні Полацкай – адной з самых паважаных беларусамі гістарычных асобаў.***

З яе імем звязана нацыянальная святыня Беларусі – жыватворны крыж, зроблены па яе заказе ў 1101 годзе полацкім ювелірам Богшам як крыж–каўчэг для прывезеных з Царграда і Ерусаліма хрысціянскіх рэліквій.

Святыня зробленая з кіпарысавага дрэва, вышынёй 52 см, даўжыня верхняй папярэчкі 14 см, ніжняй – 21 см, таўшчыня – 2,5 см.

Крыж пакрыты 21 залатой пласцінкай з каштоўнымі камянямі, арнаментамі і 20 эмалевымі мініяцюрамі. У сярэдзіне ў пяці квадратных гнёздах знаходзяцца рэліквіі: часціцы крыжа Гасподня з кроплямі крыві Ісуса, кавалачак каменя ад труны Багародзіцы, часткі мошчаў святых Стэфана і Панцеляймона, а таксама кроў святога Дзімітрыя. Па баках рэліквія абкладзеная 20 сярэбранымі з пазалотай пласцінкамі, а краі абведзеныя шнурком жэмчугу. На пазалочаных пласцінах высечаны тэкст з закляццем: "Ды не выносяць яго з манастыра ніколі, і не прадаюць, не аддаюць, калі ж не паслухае хто і вынесе з манастыра, ды не паможа яму святы крыж ні ў жыцці гэтым, ні ў будучым, ды пракляты ён будзе святой жыватворчай тройцай...".

Нягледзячы на праклёны, у канцы XII стагоддзя святыню вывезлі з Полацка смаленскія князі. У 1514 годзе пасля захопу Смаленска вялікі князь Васіль III забраў крыж з кафедральнага Успенскага сабора ў Маскву. У 1563 годзе пасля крывавых злачынстваў, учыненых у Полацку па загадзе Івана Грознага, цар, каб замаліць грахі, вяртае рэліквію на сваё месца ў Спаскую царкву царкву ў Полацку. У XVI стагоддзі, калі па распараджэнні Стэфана Баторыя храм Спаса перайшоў да езуітаў, палачане перанеслі крыж у Сафійскі сабор. Добра ведаючы, які ўплыў на вернікаў аказвае святыня, езуіты ў судовым парадку спрабавалі вярнуць крыж у Спаскую царкву. Прайграўшы суд, яны на свяце Узвіжання падмянілі рэліквію. Але вернікі прымецілі падробку і затрымалі злодзеяў.



У 1812 годзе, калі Полацк захапілі французы, палачане крыж схавалі. Яны замуравалі яго ў сцяне Сафійскага сабора.

У 1921 годзе крыж святой Еўфрасінні рэквізіравала ОГПУ. А ў 1929 годзе, калі сталіцу Беларусі хацелі перанесці ў Магілёў, туды трапіла і святыня. У Магілёве крыж захоўваўся ў абкоме партыі ў спецыяльным пакоі–сейфе з браніраванымі дзвярыма таўшчынёй у 15 см. Менавіта адтуль у пачатку Вялікай Айчыннай вайны найвялікшая беларуская святыня знікла пры таямнічых абставінах. Па афіцыйнай версіі, крыж выкралі немцы.

Ужо ў наш час выказваюцца меркаванні аб дачыненні сілавых структур СССР да знікнення рэліквіі. Па адной версіі, крыж можа знаходзіцца ў музейных запасніках Уфы ці Самары, дзе знайшлі прытулак у час вайны архівы Магілёўскага абкома партыі. Па другой версіі, ён быў перададзены па "ленд–лізу" ў ЗША і цяпер знаходзіцца ў прыватнай калекцыі Морганаў ці Ракфелераў.

Цяпер пошукамі святыні занятыя згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" і "Інтэрпол".

У 1997 годзе брэсцкі мастак **Мікола Кузьміч** стварыў копію святога крыжа, якая цяпер знаходзіцца ў Спаса–Еўфрасіннеўскай царкве ў Полацку.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

РЫХТУЕМСЯ ДА СВЯТА

# ...фестываль песні і паэзіі

*Пачатак на 1-й стар.*

**– Да святаў горад ачысціцца ад сметнікаў?**

– Сёння іх каля 60. З упартай перыядычнасцю жыхары іх ствараюць. Калі будзем "людзьмі звацца"?

Павел Іванавіч – добры спецыяліст і чалавек з гумарам. Таму напрыканцы размовы, быццам бы жартам, але папярэдзіў, асабліва гасцей:

– Будзьце ўважлівыя на пуцеправодзе па Віленскай. Калі едзеце на машыне, моцна не разганяйцеся. Мост пабудаваны ў 1974 годзе. Эксперты політэхнічнай акадэміі вызначылі неабходнасць ягонага капітальнага рамонту. Як бы не праваліцца.

*Васіль САВІЦКІ.*

НОВАЕ Ў СУВЯЗІ

# Як дазваніцца без набору нумара

***МАЛАДЗЕЧНА. Адносна нямногія ведаюць, што ў раённым вузле электрасувязі прадастаўляюцца паслугі электроннай пошты, таксама вашу інфармацыю могуць перадаць праз мадэм па міжнародных сетках. Уведзеныя ў горадзе новыя электронныя станцыі SI-2000 дазваляюць уладальніку тэлефона карыстацца сучаснымі сэрвіснымі паслугамі. Пра некаторыя з іх па нашай просьбе расказвае начальнік аб'яднанага цэха РВЭС Ігар ТАЛКАЧОЎ.***

### Паўтор апошняга набранага нумара:

пасля зняцця трубкі і набору лічбаў «1» і «2» аўтаматычна набіраецца апошні нумар. Функцыя працуе і для міжгародніх званкоў. Карыстацца ёю можна як з кнопачнага апарата, так і з дыскавага.

### Злучэнне без набору нумара:

гэта магчыма па раней зададзеным абанентам нумары, калі пасля зняцця тэлефоннай трубкі на працягу 4–5 секунд не распачаты набор любога іншага нумара.

### Скарочаны набор нумара:

прымяняецца для паскарэння працэсу злучэння з часта выклікаемымі абанентамі – замест поўнага нумара набіраецца скарочаны код.

### Забарона ўваходнай сувязі:

калі вас набярэ іншы абанент, то пачуе доўгія гудкі. Ваш тэлефон званіць не будзе.

### Паведамленне аб паступленні новага выкліку:

выклікаемы абанент падчас размовы з іншым абаненетам, калі атрымае сігнал аб паступленні новага выкліку, можа часова перарваць устаноўленую сувязь, каб дамовіцца аб часе размовы з новым абанентам.

### Перанакіраванне ўваходных выклікаў:

гэтая паслуга дазваляе аўтаматычна перадаваць усе ўваходныя выклікі на любы іншы (раней вызначаны) нумар тэлефона, калі асноўны заняты ці не адказвае.

### Канферэнц-сувязь трох абанентаў

дазваляе падчас размовы з адным абанентам звязацца са свайго тэлефона з іншым і ўстанавіць сувязь паміж трыма абанентамі, а затым выйсці з канферэнц-сувязі. Два астатнія абаненты могуць працягваць размову.

### Праграмуемая падача сігналаў напамінку (будзільнік):

прымяняюцца два тыпы паслугі - штодзённая і разовая (з указаннем даты).

### Серыйны набор нумара:

абаненту даецца некалькі ліній з адным тэлефонным нумарам. Выклік да яго трапляе на адну са свабодных ліній.

*(Працяг будзе).*

КАМАРОЎКА

## Камароўка, 31 мая

***У апошнюю нядзелю мая на галоўным прадуктовым рынку сталіцы былі наступныя цэны (рублёў за 1 кг):***

Курыныя кумпячкі – 96900
Кілб. «Сталічная» – . 275000
Сасіскі свіныя .......... 108000
Селядцы салёныя ...... 39800
Рыс – ........................ 26500
Цукар – .................... 28000
Грэчка – ................... 27500
Алей 1 л (Unoli) – .... 61000
Яйкі курыныя – ........ 25000
Маянэз 250 г – ......... 15000
Кава "Пеле" 100 г – 75000
Шпроты 160 г – ....... 24000
Соус "Мінскі" – ....... 24000
Лімоны – .................. адсутн.

### Рыба марожаная, 1 кг:

Зубатка – ................. 140000
Аргенціна – .............. 100000
Траска – ................... 99000
Хек – ....................... 95000
Кета – ...................... 110000
Скумбрыя – ............. 82000
Мінтай – .................. 82000
Марскі мянтуз – ....... 80000
Марскі акунь – ........ 70000
Камбала – ................ 64000
Селядзец – ............... 43000
Мойва – ................... 53000
Ількі – ..................... 44000

*Ігар КІЦІКАЎ.*

З"ЯВА

# Прастытуткі на суботніку.

# Толькі працуюць не на дзяржаву

***ВІЛЕЙКА. Часцей за ўсё іх можна ўбачыць у якім–небудзь бары. У чаканні кліентаў яны бавяць час за кубкам кавы ці кока–колай і ўспамінамі пра лепшыя дні. А ўспомніць ёсць што.***

Горад не адносіцца да фінансавых цэнтраў, і долары тут, часцей за ўсё, можна ўбачыць толькі па тэлевізары, таму большасць прастытутак працуе на выездзе. У першую чаргу, гэта Мінск, дзе прыжыліся некалькі "камандаў" з Вілейкі, і Масква, куды за адсутнасцю надзейнай базы, яны робяць чартэрныя рэйсы. Але ў гэтых сталіцах хапае сваіх жрыц кахання славянскай знешнасці, таму "нашым" даводзіцца асвойваць так званае далёкае замежжа. Дзяўчаты не ведаюць законы і традыцыі гэтых краін, звычайна не валодаюць мовай, таму нярэдка трапляюць у вельмі цяжкае становішча.

Некалькі разоў "каманды" Вілейкі наведвалі Турцыю. У адзін з такіх наездаў дзяўчат "заказалі" на нейкае мусульманскае свята. Адна з іх вельмі спадабалася багатаму турку. Той загадаў сваім слугам схапіць небараку, адабраць у яе пашпарт і адправіць у свой гарэм, дзе дзяўчына правяла амаль два гады. Толькі цудам ёй удалося вырвацца з палону і ў халаце і тапачках прыбегчы па дапамогу ў пасольства Расіі.

Другая вілейчанка апынулася праз пасрэднікаў у Ізраілі, дзе добра зарабляла. Падчас аблавы на прастытутак паліцыя праверыла яе пашпарт. Віза аказалася фальшывай. За парушэнне візавага рэжыму яна тры месяцы правяла ў турме, дзе «вельмі смачна кармілі». Пазней яе дэпартавалі.

Тры гады таму ў Вілейцы і Маладзечне рэзка павялічылася калькасць захворванняў на сіфіліс. Гэта «работа» прастытутак, што вярнуліся з заробкаў, у асноўным, з Вільнюса.

Складаныя стасункі ў прастытутак з бандытамі. Бывалі выпадкі, калі заезджыя гамілы забіралі дзяўчат на суботнік – дармавое абслугоўванне "братвы".

Самі прастытуткі таксама не заўсёды сябруюць з Крымінальным Кодэксам. Багатаму "лоху" (так паміж сабой завуць яны кліентаў) могуць падбавіць у чарку гарэлкі клафелін, пасля чаго аматар сексуальных прыгод губляе прытомнасць. Раніцой, калі той ачуняе, бачыць, што застаўся без штаноў.

Сказанае датычыцца старэйшых. Прастытуцыя маладзее. Нярэдка можна ўбачыць, як увечары каля навучальных установ зусім юныя дзяўчаты садзяцца ў іншамаркі. Пра такое яны могуць сказаць:

– Прадам нявіннасць за 200 "баксаў" і куплю скураную куртку!

Старажылы расказваюць, што пры Польшчы ў Вілейцы быў публічны дом. Ён месціўся ў двухпавярховым драўляным будынку. На другім паверсе знаходзіліся пакоі, дзе на кожных дзвярах вісела фота дзяўчыны. У тыя часы прастытуцыя была пад кантролем дзяржавы.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

